Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10.2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года

35 (543) 2 верасня 2010 года

Кошт **свабодны**



На гарадскім свяце «Мы - разам»

Фота Я. Самсонава

# Ïðàäïðû ìàëüí³êàì äàçâîëÿöü íàéìàöü ðàáîòí³êà¢

■ **БЕЛТА**

**У Беларусі індывідуальным прадпрымальнікам дазволяць браць на працу наёмных супрацоўнікаў.**

Такая магчымасць у іх з'явіцца пасля прыняцця дырэктывы № 4 Прэзідэнта Беларусі (каардынацыйным органам па распрацоўцы яе праекту з'яўляецца Мінэканомікі), скіраванай на далейшую лібералізацыю эканомікі.

«У будучай дырэктыве будзе ўтрымлівацца шэраг, на наш погляд, рэвалюцыйных момантаў», — адзначыў намеснік міністра эканомікі Андрэй Тур на канферэнцыі Бізнэс-саюза прадпрымальнікаў і наймальнікаў імя Куняўскага.

Як паведаміў намеснік міністра, дакументам будуць уведзеныя нормы, звязаныя з амніставаннем капіталаў, свабодным рэгуляваннем рынку працы і ўсталяваннем заработнай платы. Акрамя таго, суб'ектам гаспадарання з колькасцю супрацоўнікаў да 100 чалавек будзе дадзеная магчымасць пераходу на спрошчаную сістэму падаткаабкладання. На сённяшні дзень такая форма падатковай справаздачнасці дастасоўная да прадпрыемстваў з колькасцю да 15 супрацоўнікаў.

Акрамя таго, планаваным да падпісання дакументам будзе ўведзены мараторый на праверку дзейнасці прадпрыемства ў першыя 5 гадоў яго працы, а ў індывідуальных прадпрымальнікаў з'явіцца магчымасць браць на працу наёмных супрацоўнікаў.

# Áàíê³ðû íàâó÷àöü ãðàìàäçÿí íîâûì ñïîñàáàì âûêàðûñòàííÿ ïëàñòûêàâûõ êàðòàê

■ **Марына Паўлава**

Лекцыі на тэму магчымасцяў, якія падаюць грамадзянам пластыкавыя карткі, будуць чытаць банкаўскія працаўнікі ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах, на прадпрыемствах і арганізацыях Віцебшчыны.

Такое даручэнне даў ім губернатар вобласці Аляксандр Косінец. На выязным паседжанні Віцебскага аблвыканкама ў Дубdroўне такую ідэю падала губернатару начальнік галоўнага ўпраўлення Нацыянальнага банка па Віцебскай вобласці Лілія Іванова, паведамляе БЕЛТА. У першым паўгоддзі ў раздробным тавараздвароце безнаяўныя разлікі склалі ўсяго 7,2 адсотка, а ў аб'ёме платных паслуг - ледзь больш дзесяці. Каб папулярызаваць разлікі пры дапамозе картак, навучыць людзей карыстацца ўсімі магчымасцямі, якія падаюць банкаматы і інфакіёскі, банкаўскія працаўнікі і пойдуць у народ.

# Àëÿêñàíäð Êîñ³íåö ïåðàâîäç³öü ïðàâ³íöûþ íà ãàñðàçë³ê

■ **Марына Паўлава**

Губернатар Віцебшчыны Аляксандр Косінец паставіў перад кіраўнікамі раённых выканкамаў задачу - да 2013 года перайсці на бездатацыйныя бюджэты.

За тры гады рэгіёны павінны стварыць новыя вытворчасці, наладзіць эфектыўную працу дзейсных, развіваць прыватны бізнес, сферу паслуг, прыдарожны сэрвіс, па максімуме выкарыстоўваць уласную сыравінную базу і гэтак далей. У наш час усе сельскагаспадарчыя раёны вобласці (а іх 21) з'яўляюцца датацыйнымі, паведамляе БЕЛТА.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Äëÿ øêîë êðà³íû ³ çà ìåææà

■ **Чэслаў Якубовіч**

**Адзіным у Беларусі цяпер застаецца прадпрыемства "Паставымэбля", якое яшчэ з савецкіх часоў спецыялізавалася на вытворчасці школьнай мэблі і вучэбнага абсталявання.**

Праўда, каб утрымацца на рынку і захаваць калектыў, тут асвоілі выпуск мэблі для офісаў, спалень і кухань. Але ж захавалі сваю галоўную нішу, а Міністэрства адукацыі рэкамендавала ўсім сваім установам краіны набываць менавіта якасную і даволі танную пастаўскую мэблю. Сёлета толькі на Віцебшчыне закупілі школьнай мэблі на 4 млрд. рублёў, большасць з якой заказалі на гэтым прадпрыемстве. Ёй у асноўным абсталявалі класы і раздзявалкі адкрытай у адным з мікрараёнаў Віцебска Білёва-1 новай суперсучаснай школы на 1200 вучнёўскіх месц. Для дзетак мясцовыя мебельшчыкі даставілі і склалі абсталяванне і для новага дзіцячага сада па суседству. Школьную мэблю пастаўчане прадаюць таксама і ў Расію, Латвію, Таджыкістан. Да гэтых краін у гэтым годзе дабавіўся Казахстан, куды адправілі цэлых 5 вагонаў з 8-ю тысячамі парт і школьных крэсел. Але спачатку прыйшлося выйграць буйны міжнародны тэндэр. Завадчане працавалі ў 3 змены, зрабілі ўсё ў тэрмін, а школьная мэбля атрымалася яркай і прыгожай, выраблёнай у нацыянальных колерах па дызайну казахскіх партнёраў.

Äîêøûöê³ ðà¸í

# Àáíî¢ê³ ïåðàä øêîëàé

■ **Кастусь Александровіч**

**Шмат клопатаў было ў бацькоў усіх дзяцей, чые дзеці прыйшлі на заняткі ў новым навучальным годзе ў 584 агульнаадукацыйныя школы вобласці.**

Каб прыстойна сабраць школьнікаў для вучобы і забяспечыць іх усім неабходным, дарослым трэба цяпер мець даволі вялікую суму грошай. Што ж тады казаць пра большасць выхаванцаў Бягомльскай школы-інтэрната для дзяцей сірот і дзяцей, застаўшыхся без апекі бацькоў, што ў Докшыцкім раёне, пра якіх няма каму паклапаціцца. Але на шчасце ў гэтай установы ёсць уплывовы спонсар, вядучы банк краіны – АСБ "Беларусбанк". Яго супрацоўнікі паклапаціліся аб тым, каб пакрыўджаныя лёсам маленькія суайчыннікі таксама зведалі радасць перад 1 верасня і забяспечылі ўсіх новымі школьнымі касцюмамі. На гэту акцыю банкаўская ўстанова патраціла 17,5 млн. рублёў, а адзенне было падабрана згодна індывідуальных памераў цела кожнага хлопчыка і дзяўчынкі. Такім чынам, усе навучэнцы гэтай сіроцкай установы сталі прыгожа апранутымі і падрыхтаванымі для вучобы ў інтэрнаце. Прыемна, што і раней буйны айчынны банк клапаціўся аб дзецях, апынуўшыхся ў дзяцінстве ў няпростых жыццёвых умовах. Толькі ў мінулым годзе выдзеленыя ім яшчэ 200 млн. рублёў дапамаглі правесці капітальны рамонт вучэбнага корпуса і інтэрнатскага медпункта.

Áðàñëà¢ñê³ ðà¸í

# Âÿë³ê³ÿ àìá³öû³ ìàëîãà öýõà

■ **Станіслаў Раманчук**

**Не так і шмат людзей працуе ў каўбасным цэху Браслаўскага райспажыўсаюза, але іх якасная і смачная прадукцыя пры вялікай канкурэнцыі знаходзіць усё больш спажыўцоў.**

На працягу 8-мі апошніх гадоў яго каўбаскі і вяндліна нязменна перамагалі ў конкурсе "Лепшыя тавары года Рэспублікі Беларусь". Сёлета аб'ёмы вытворчасці нават падвоіліся і дасягнулі амаль 50 тон мясапрадуктаў у месяц. Такое стала магчымым пасля пачатага тэхпераўзбраення вытворчасці і інвестыцый у яе абнаўленне ў памеры 3 млрд. рублёў. За такія сродкі ў каўбасным цэху з'явіліся дзве сучасныя чэшскія тэрмакамеры для варкі, сушкі і нават запякання кумпячкоў, а таксама стала працаваць навейшае польскае абсталяванне, якое забяспечвае 100 %-ную глыбіню перапрацоўкі мясных туш. Такое энергаёмкае абсталяванне ёсць толькі ў лічаных прадпрыемстваў галіны Беларусі. Цяпер асартымент выпускаемых мясных вырабаў у браслаўчан поўнасцю абнавіўся і перавысіў больш ста найменняў. З дапамогай новых тэхналогій удалося нават знізіць кошт ліверных каўбас, паштэтаў, зельца і іншых відаў мясных субпрадуктаў. У перспектыве мяркуюць выпускаць дэлікатэсныя каўбасы і вяндліну з мяса дзікіх жывёлін у супрацоўніцтве з дырэкцыяй нацпарка "Браслаўскія азёры".

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| | чацвер 02.09.10 | | | | пятн. 03.09.10 | | | | сб. 04.09.10 | | | | нядз. 05.09.10 | | | | 06.09.10 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °C | +9 | +10 | +12 | +10 | +7 | +7 | +9 | +9 | +7 | +8 | +12 | +9 | +8 | +8 | +12 | +9 | +4 | +7 | +13 |
| Ціск, мм | 735 | 732 | 730 | 729 | 728 | 731 | 736 | 741 | 743 | 745 | 747 | 748 | 749 | 750 | 751 | 752 | 752 | 753 | 754 |
| Вільготнасць, % | 99 | 100 | 93 | 96 | 97 | 96 | 86 | 88 | 89 | 90 | 73 | 89 | 95 | 90 | 69 | 93 | 99 | 97 | 65 |
| Вецер м/сек | С-В 7 | С 4 | С-З 3 | Ю 3 | З 6 | З 8 | З 9 | З 7 | З 5 | З 5 | З 7 | З 3 | З 2 | З 3 | З 3 | В 1 | В 1 | В 2 | В 1 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**У краіне ў сярэднім на 10 % вырашана павысіць закупачныя цэны на малако, што дазволіць айчыннаму АПК да канца года атрымаць дадаткова 200 млрд. рублёў выручкі і больш прадаць прадукцыі на рынак Расіі. Але для беларускіх спажыўцоў, асабліва пасля прэзідэнцкіх выбараў, гэта можа азначаць далейшае павышэнне цэн на сацыяльна значную прадукцыю і рост інфляцыі. Пакуль жа Нацбанк Беларусі знізіў стаўку рэфінансавання да 11 % гадавых і на столькі ж павысіліся стыпендыі для беларускіх студэнтаў і навучэнцаў. Таксама пакуль толькі для айчынных юрасоб і прадпрымальнікаў выраслі тарыфы на цепла- і электраэнергію на 20,9 %.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Славакія.** Парламент краіны пакуль адзіны ў ЕС адмовіўся выконваць еўрапейскі план дапамогі Грэцыі і пералічыць ёй за 3 гады свой узнос у памеры 816 млн. EUR.

**Расія.** Нават Маскоўскі патрыярхат падтрымаў новы законапраект аб перайменаванні сучаснай расійскай міліцыі ў “паліцыю”, яго плануецца прыняць ужо восенню.

**Пакістан.** Генсека ААН Пан Гі Муна шакіравалі аб’ёмы стыхійнага бедства, пасля паводкі тут жыллё страцілі каля 20 млн. жыхароў краіны, загінула 1600 чалавек.

**Украіна.** У адрозненне ад Расіі, краіна не будзе ўводзіць эмбарга на экспарт збожжа, бо як член СГА асновай сваёй палітыкі лічыць інтэграцыю ў еўрапейскую сям’ю нацый.

**Літва.** Пасля затрымання КДБ на беларускай граніцы начальніка коннай паліцыі Літвы большасць яго калег не паверылі, што ён мог сам перавозіць у аўто лёгкія наркотыкі.

**Шатландыя.** Больш 200 ансамбляў з 16 краін свету прынялі ўдзел у парку Глазга на 62-ім сусветным першынстве сярод аматараў музыкі валынкі і шатландскіх танцаў.

**Польшча.** Грамадскасць краіны ўрачыста адзначыла 90-годдзе пераломнай перамогі палякаў над Чырвонай Арміяй пад Варшавай, калі быў спынены чырвоны тэрор у Еўропу.

**Казахстан.** На працягу 10 дзён праходзілі сумесныя ваенныя вучэнні казахскіх, брытанскіх і амерыканскіх Узброеных сіл па праграме НАТО “Партнёрства дзеля міру”.

**Германія.** Пасля змен у законе аб абароце наркотыкаў у краіне дазволяць продаж канаплі для лячэння хворых і выдачу такіх лякарстваў для абязбольвання пацыентаў хоспісаў.

**Грузія.** Прэзідэнт М. Саакашвілі запатрабаваў на працягу бліжэйшых 4-х гадоў зрабіць англійскую мову другой пасля грузінскай для навучання ўсіх школьнікаў краіны.

**Малдова.** Федэральная мытная служба Расіі поўнасцю забараніла імпарт малдаўскіх він, вінаматэрыялаў і каньякоў з-за быццам іх дрэннай якасці, так ужо было і ў 2006 годзе.

**Іспанія.** У краіне ўзраслі прапановы аб забароне карыды быкоў пасля здарэння ў горадзе Тафалья, дзе раз’юшаны звер пераскочыў агароджу і нанёс розныя траўмы 30 гледачам.

**Швейцарыя.** Самы вялікі ў свеце штраф, больш 1 млн. $ за перавышэнне хуткасці руху на аўто 300 км/г выпісала паліцыя 37-гадоваму шведу, які перавысіў норму язды ў 1,5 раза.

**ЗША.** Пасля аперацыі на сэрцы і вяселля дачкі зноў пагоршылася здароўе экс-прэзідэнта, 63-гадовага Б. Клінтана, у вядомага акцёра М. Дугласа ўрачы знайшлі рак гартані.

**Мьянма.** У вясковым манастыры адшукалі яшчэ здаровую, самую старую жанчыну на свеце Дау Мья Кы, 1892 года нараджэння, якой споўнілася ўжо 118 гадоў.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Новы кіраўнік вобласці Барыс Батура моцна абурыўся аб’ёмамі карумпаванасці сталічных чыноўнікаў, масавых прыпісак у АПК і прыхоўвання кадрамі сваіх даходаў.

**Салігорск.** У прыватызацыі “Беларуськалія” зацікаўлена актыўна прыняць удзел Індыя, як афіцыйна заявіў аб гэтым яе Надзвычайны і Паўнамоцны пасол у РБ Рамеш Чандэр.

**Астравец.** Рэальнымі прэтэндэнтамі на будаўніцтва Беларускай АЭС, па меркаванню экспертаў, могуць быць толькі Расія альбо Кітай, але не скончана экалагічная экспертыза.

**Мінск.** Значны рэзананс выклікаў арышт КДБ уплывовага галоўнага следчага Камітэта дзяржкантролю Д. Адамовіча, які актыўна супрацоўляўся пры затрыманні ў сталіцы.

**Мазыр.** Расійска-брытанская нафтавая кампанія ТНК-ВР адмовілася ад пакупкі дадатковага пакета акцый мясцовага Мазырскага НПЗ з-за ўмоў паставак нафты сюды.

**Мінск.** Пасля паказу па НТБ чарговага фільма “Крестный батька-3” газета “Советская Белоруссия” у адным з артыкулаў назвала прэм’ер-міністра Расіі У. Пуціна “дылетантом”.

**Баранавічы.** У мясцовым лакаматыўным дэпо пройдуць перадэксплуатацыйныя выпрабаванні гарадскога электрацягніка для Мінска кампаніі “Stadler” (Швейцарыя).

**Магілёў.** Абласны суд у поўным аб’ёме апраўдаў былога гендырэктара ААТ “Гомельшкло” Ю. Ільева, які адседзеў больш года пасля свайго арышту КДБ у маі летась.

**Мінск.** Як паведаміла Міністэрства аховы здароўя, вакцынацыя супраць грыпу пачнецца ў Беларусі ў 3-й дэкадзе верасня, усяго будзе закуплена 1,4 млн. доз кітайскай вакцыны.

**Гомель.** Мясцовы бізнесмен у сталіцы вырашыў справы, але застаўся гуляць у Мінску на 4 дні, дзе выпадковыя знаёмыя знялі ноччу з яго банкаўскай карткі амаль 7 млн. рублёў.

**Лагойск.** На працягу трох дзён тут праходзіў фестываль феерверкаў “Навальніца”, акрамя шоу піратэхнікі выступілі група “Бі-2”, славуты Б. Грабеншчыкоў з групай “Акварыум”.

**Мядзель.** Кампанія “Тытунь-Інвест”, уладальнік сеткі гіпермаркетаў сталіцы РБ, атрымала права на стварэнне праекта і далейшую забудову інфраструктуры возера Нарач.

**Жодзіна.** Група парламентарыяў па вывучэнню праблем пакарання смерцю наведала калонію, адзіную ў РБ, дзе адбываюць пажыццёвае пакаранне 142 асуджаныя зняволеныя.

**Гродна.** За бясплатную язду ў тралейбусе і за ўдар кулаком жанчынукантралёра ў ходзе разборак дэбашыру-гараджаніну суд наклаў штраф у памеры амаль 4 млн. рублёў.

**Хойнікі.** У чарговы Дзень беларускага пісьменства ў райцэнтры стартуе Рэспубліканская акцыя “Чытаем па-беларуску”, падвядзенне яе вынікаў пройдзе ў красавіку 2011 года.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** Кіраўнік аднаго з раёнаў вобласці стаў фігурантам крымінальнай справы аб незаконным выдзяленні 2-х зямельных участкаў, яму пагражае да 10 гадоў турмы.

**Дуброўна.** Лён па французскай тэхналогіі на мясцовым льнозаводзе даў ураджайнасць 6 тон трасты з гектара пры сярэдняй па краіне 3,5-4 тоны і вырас на 15-20 см вышэйшым.

**Віцебск.** Напярэдадні новага навучальнага года на Віцебшчыне закрылі яшчэ 16 малакамплектных школ у глыбінцы, пачалі працаваць там 466 маладых настаўнікаў.

**Ушачы.** У лясным масіве на тэрыторыі раёна міліцыя адшукала і знішчыла самагонны міні-завод разам з амаль 1,5 тонамі брагі, яго гаспадароў адразу не знайшлі.

**Віцебск.** У канферэнцзале гасцініцы “Лучоса” фірма “БЕЛВЕСТ” правяла паказ сваёй новай калекцыі абутку “восень-зіма 2010-2011”, створанай з удзелам дызайнераў з Італіі.

**Чашнікі.** Пасля праверкі мясцовага ПМЦ меліводгаса высветлілася, што з ягонага філіяла рыбакомплекса таямніча зніклі 23,4 тоны рыбы каштоўных асятровых парод.

**Орша.** Па чацвяргах з 23 верасня праз горад пачне курсіраваць новы хуткасны міжнародны чыгуначны маршрут з Масквы з прыбыццём у Ніццу (Францыя) ў суботу.

**Верхнядзвінск.** У вёсцы Каханавічы ўрачыста адкрылі аграгарадок, дзе ўзвялі сельсавет, 5 жылых дамоў, магазін, капітальна адрамантавалі шэраг аб’ектаў сацкультбыту і дарогі.

**Лепель.** Прадпрыемства “Белпошта” выпусціла спецыяльны маркіраваны канверт з выявамі касцёла св. Казіміра, адной са старажытных вуліц горада і старога ліхтара.

**Дуброўна.** З-за п’яных пастухоў сутыкнуўся з двумя цягнікамі на чыгуначным пераездзе каля вёскі Хрусціна статак кароў калгаса “40 гадоў Кастрычніка”, загінула 47 з 237 галоў.

**Полацк.** На пазачарговай сесіі дэпутаты гарсавета вырашылі прысвоіць званне “Ганаровы грамадзянін Полацка” мэру горада Уладзіміру Тачыла за ягоныя заслугі і любоў да краю.

**Орша.** Вёску для дзяцей-сірот задумаў пабудаваць у горадзе прадпрымальнік, інвалід-калясачнік 1-й групы Аляксей Талай, гэты праект падтрымаў адзін з фондаў ЗША.

**Віцебск.** Побач з гандлёвым цэнтрам “Эвіком” адкрыўся буйны супермаркет электронікі “Пяты элемент” з асартыментам бытавой тэхнікі больш 6 тысяч найменняў.

**Полацк.** Прама з пашы двое беспрацоўных скралі каня 70-гадовага пенсіянера, міліцыя злодзеяў злавіла, але яны паспелі забіць жывёліну, толькі каніну збыць не змаглі.

**Наваполацк.** Мясцовы майстар спорту міжнароднага класу Мікіта Папакуль стаў пераможцам у суме шматбор’я ў фінале Гран-пры Еўропы па водных лыжах.

*Служба інфармацыі “ВГ”.*

## Лічба нумара

**86.300** столькі маладых беларускіх хлопчыкаў і дзяўчынак, па дадзеных Міністэрства адукацыі РБ, упершыню селі 1 верасня за парты ў школах краіны і пачалі свой нялёгкі працягны шлях у Краіну ведаў. Для іх бацькоў і родных скончыўся час хваляванняў і значных матэрыяльных затрат, звязаных з адпраўкай дзяцей на заняткі. Большасць устаноў айчыннай адукацыі аказаліся падрыхтаванымі да новага навучальнага года, школьных настаўнікаў і падручнікаў у асноўным хапае, а вось пэўныя праблемы ў гэтай сферы паранейшаму засталіся.

Галоўная з іх, што наша краіна, як ні шкада, пакрыху вымірае, дэмаграфічная сітуацыя марудна паляпшаецца. І таму сёлета ў цэлым па Беларусі стала меней на 33 тысячы дзетак школьнага ўзросту, у тым ліку на Віцебшчыне колькасць навучэнцаў школ зменшылася на 4,5 тысячы чалавек. У гэтай сітуацыі прыйшлося па краіне закрыць яшчэ 52 школы, з якіх самае сумнае – аказаліся ўвогуле 4 сярэднія школы ( адна ў нашай вобласці), а астатнія пачатковыя і базавыя. На месцах падыходзілі да такіх непапулярных крокаў прадумана, але іншага выхаду не было, бо няма каго там вучыць.

А вось адкрылася ў краіне новых агульнаадукацыйных школ у 10 разоў меней, усяго толькі 5. Не паспелі завяршыць будаўніцтва яшчэ 4 новых сярэдніх школ, іх увод у эксплуатацыю адкладзены на канец 2010 года. Устаноы адукацыі паклапаціліся, каб застаўшыхся арбез працы педагогаў перавесці на работу ў іншыя школы. Дзяцей з апусцеўшых школ цяпер будуць падвозіць на заняткі ў новыя будынкі на аўтобусах. Таксама прадаўжалася праца па рэарганізацыі ўстаноў адукацыі ў вучэбна-педагагічныя комплексы, шэраг сярэдніх школ сталі базавымі і нават пачатковымі.

Разам з тым, жыццё ідзе наперад. Беларускія школы ў большасці сваёй забяспечаны ўжо доступам у Інтэрнет, але толькі асобныя маюць хуткасны доступ у гэта “сусветнае павуцінне”. Вучэбная літаратура і падручнікі цяпер суправаджаюцца і электроннымі носьбітамі патрэбнай інфармацыі, але такія працэсы найбольш развіты ў Мінску, абласных цэнтрах і буйных багатых гарадах краіны. На жаль, і сёлета існуе перакос у мовах навучання.

Праўда, па існуючай статыстыцы 52 % айчынных школ навучальны працэс праводзяць на роднай мове. Але ж гэта ў асноўным невялічкія школкі ў сельскай мясцовасці, фактычна па-беларуску вучыцца толькі кожны пяты малады беларус. 43 % агульнаадукацыйных устаноў РБ практыкуюць рускую мову навучання, але ж у іх сканцэнтравана асноўная маса маладых суайчыннікаў краіны і яўны перакос не ўпрыгожвае наша грамадства. Беларуская мова навучання ў яўным заняпадзе, і сёлета ўжо амаль у 2 разы болей выпускнікоў здавалі абавязковы экзамен па выбару па рускай мове.

У мінулым такіх перакосаў не было, і абітурыенты размяркоўваліся прыкладна пароўну.

Яшчэ адной важнай асаблівасцю чарговага навучальнага года стала павелічэнне да 3 у школах і да 5 у гімназіях і ліцэях колькасці вучэбных гадзін, якія адводзяцца на вывучэнне замежных моў. Усе класы будуць дзяліцца на 3 падгрупы на уроках замежнай мовы. Гэта правільна, моладзь павінна, ў адрозненне ад старэйшых пакаленняў, лепей ведаць, чытаць і размаўляць на іншых мовах свету. Але ж сорамна пры гэтым не ведаць і сваю мілагучную, прыгожую родную мову!

Хто хоча атрымаць больш трывалыя веды па іншых прадметах, будзе наведваць факультатыўныя заняткі па іх. Сёлета пачне дзейнічаць новы Закон па правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі, але для вучняў уводзіцца трохгадовы мараторый на памылкі, каб яны прывыклі да новаўвядзенняў. Беларускі ўрад таксама разгледзе пытанне аб павышэнні заработных плат дзесьці на 25 % усім работнікам гэтай галіны, бо яны знізіліся да ўзроўню 68,3 % да ўзроўню сярэдніх зарплат у прамысловасці.

Новы навучальны год у беларускіх школах толькі пачаўся. Хацелася б, каб для маладых суайчыннікаў і іх бацькоў і родных ён прынёсці толькі прыемныя эмоцыі і поспехі. Рана ці позна цудоўныя школьныя гады для цяперашніх школьнікаў завершацца, а атрыманыя веды павінны дапамагчы ўсім знайсці дастойнае месца ў дарослым жыцці.

# Ігнапаль
## і яго ваколіцы

*У праця тэмы, распачатай у «ВГ» №27 (535) за 8 ліпеня 2010 г., № 28 (536) 15 ліпеня 2010 года, №30 (538) 29 ліпеня2010 года, №31 (539) 5 жніўня 2010 г., № 32 (540) 12 жніўня 2010 года, № 34 (542) за 2010 год*

**Генадзь Комель**

Складанасць рашэнняў В. Кубэ як кіраўніка адміністрацыі я дазволю сабе распачаць з рашэнняў Кубэ, на якія ён адважыўся – гэта асноваполажныя рашэнні.

Але насельніцтва, якое сябе называла "мы тутэйшыя", да узроўню нацыі патрэбна падымаць школьніцтвам. Часовая інструкцыя ад 10.09.41 г. уводзіла абавязковае навучанне для дзяцей ва узросце ад 7 да 14 год (акрамя габрэяў). Мясцовая адміністрацыя павінна была адчыніць пачатковыя школы з вывучэннем роднай мовы, прыродазнаўства (батаніка і заалогія), арыфметыка, геаграфія, спевы, рукадзелле, гімнастыка. У Глыбоцкай акрузе школа адкрылася 15.10.41 года. У маёй вёсцы Узрэчча маімі школьнымі настаўнікамі былі: Жызнеўская, Яноўскі, Камінскі. Спадарыню Жызнеўскую памятаю, як яна ў ліпені 1944 года бегала з вінтоўкай за плячыма па хатах і заганяла ісці на фронт. Дарэчы, афіцыйнага ўказа аб мабілізацыі не існавала. Вось і атрымаліся добраахвотнікі. Ну, а як добраахвотнікаў судзіць, тых, каторыя не пайшлі на фронт, вось і была потым для іх амністыя.

Гаспадыня, у якой кватаравала настаўніца, ды і многія вяскоўцы, цішком сцвярджалі, што яна была габрэйка.

Спадар Камінскі папрацаваў зусім мала, мо колькі месяцаў 1944 года, яго хутка забралі савецкія органы. Некаторыя сцвярджалі, што гэта быў расіянін, камандзір Смаленскага палка СС, але на маю думку, наколькі я памятаю, ён для камандзіра палка быў маладым. А вось на другога Камінскага, які быў паліцаем, а потым перабег у партызаны і застрэліў Вацлава Іваноўскага, больш падобны. Але гэтай гісторыяй займаюцца больш кампетэнтныя асобы. Даю бясплатна тэму дысертацыі.

Яноўскага Мікалая Іосіфавіча я ведаю асабіста някепска, наколькі дазваляў мой дзіцячы розум і савецкае выхаванне. Але гэта патрэбна расказаць асобным артыкулам.

Нягледзячы на цяжкасці з кадрамі і памяшканнямі, а таксама на недахоп падручнікаў, ужо ў 1941-1942 навучальным годзе было 348,5 тысяч пачатковых школ, дзе навучалася 346 тысяч вучняў і працавала 9 716 настаўнікаў. Распрацаваная Кубэ 7-класная сістэма адукацыі перавышала інструкцыі нямецкай адміністрацыі.

Як абыходзілі інструкцыі і цяжкасці навучання, добра бачна з рэляцыі Алеся Грыцука, кіраўніка галоўнага школьнага інспектарату па Беластоцкай акрузе, надрукаванаю ў кнізе Вольгі Грыцук "Мы стварылі сваю Беларусь", Мн.: Медісонт, 2007 г.

Я мяркую, умовы працы у Беластоцкай і Мінскай



Юры Туронак

акругах адрозніваліся мала чым.

Даю скарочаны змест рэляцыі Алеся Грыцука ў маім перакazе.

"Сярод нямецкіх акупацыйных уладаў былі два напрамкі – палітычны і вайсковы". Вайсковае камандаванне "каб мець спакойнае заплечча глядзела на беларуса як на свайго саюзніка", палітычная улада – як на будучую рабочую сілу.

У камуністаў асноўнай задачай была барацьба з немцамі і як староннікі "недзелімай", яны былі супраць беларусаўнацыяналістаў, якія стараліся падрыхтаваць беларускае насельніцтва для аднаўлення незалежнасці Беларусі.

Каб зарэгістраваць школу, патрэбен дозвол мясцовага камісара (войта), якія не зусім арыентаваліся, што рускі, што беларускамоўны настаўнік. Немцы думалі, што ўсе яны беларускамоўныя. Немцы пагадзіліся аплачваць школьны інспектарат, а школы павінны быць аплочаныя насельніцтвам. Вясковы староста адыграваў вялікую ролю. Школы былі сямікласныя, але былі выпадкі хітрыкаў – адчынялі 7-б з праграмай 8-га класа.

З першага класа ва Узрэцкай школе пісалі "жабкай" (гэта значыць, мяккім пяром у драўлянай ручцы) бурачным альбо чарнічным сокам, альбо сажай (вось гэтая – фу! – гадасць размазвала ўсе запісы). Школьныя заданні выконвалі на грыфельнай дошцы.

Савецкія падручнікі, дзе не было партрэтаў Сталіна – Леніна, альбо вырывалі тыя партрэты і выкарыстоўвалі як сшыткі.

Галоўны школьны інспектар мог звольніць настаўніка, і настаўнік быў бы вывезены ў Нямеччыну. Настаўнікі і вясковыя старасты выконвалі свае абавязкі больш са свядомасці, чым за страх.

Ні імя, ні прозвішча Узрэцкага старасты не памятаю, але яго ўчынкі, жарты – памятаю.

Падыходзіў да нашай хаты ён заўсёды з боку, з якога не было бачна яго з вакон, у саломенную страху хаваў пісталет і потым заходзіў у хату. Размаўляў на трасянцы. Але свае адносіны да рускай мовы падкрэсліваў прыпеўкай:

"Тры дня дома не была,
Печку не тапила,
Мужа сраного с утра
В город проводила".

Альбо такі выпадак. На кожную гаспадарку была даведзена, улічваючы колькасць зямлі і агульны прыбытак, абавязковая гадавая пошліна на карысць нямецкай адміністрацыі ў кілаграмах зерня, бульбы і гэтак далей. Адвезлі. Праз якісьці невялікі прамежак часу ўгаворвае солтыс здаць дадаткова 3 фурманкі зерня. Сабралі. Некаторыя самі прапанавалі свае паслугі фурманамі, але старaста прызначаў фурманаў сам. І што Вы думаеце, чаму сам прызначаў? На шляху іх сустрэў, як высветлілася потым, пасля вайны, Куняла Уладзімір, які быў у партызанах.

На прыканцы 1943 года былі ўведзены падаткі: "падаходны падатак ад працоўных, падатак на прыбытак, падатак за дазвол займацца рамяством для тых, хто трымаў майстэрні, і прадстаўнікоў некаторых вольных прафесій, падатак з абароту пры продажы фабрычных тавараў, падатак з прыбытку вытворчых прадпрыемстваў, падатак для ўладальнікаў будынкаў, зямельны падатак".

Розныя погляды на задачы акупацыі выявіліся адразу па прыездзе Кубэ ў Мінск. Юры Туронак у кнізе "Мадэрная гісторыя Беларусі", Вільня, Інстытут беларусістыкі, 2006 г., прыводзіць тры цікавыя дакументы, два з іх выкарыстоўваліся ў Нюрнбергскім працэсе.

Ліст Кубэ да Розенберга ад 29.09.1941 года. Я даю толькі асабліва цікавыя вытрымкі, а поўны тэкст, спадзяюся, чытачы знойдуць самастойна.

"Прытым гаворка йдзе пра мільённыя каштоўнасці (карціны, вывезеныя ў рэйх – Г.К.)... вывезлі без распіскі тры грузавыя машыны з мэбляй, карцінамі, прадметамі мастацтва."

"... Для рэстаўрацыі часта пашкоджаных без сэнсу нажамі карцін прашу прысл аць сюды нацыянал-сацыялістычнага мастака Валлі Стрынгера". "... Музей дагістарычнай археалогіі таксама знаходзіцца ў стане поўнага спустошэння. Можа, больш бы пажадана, каб Вы, спадар рэйхсляйтэр, паведамілі фюрэру".

Пазіцыя Кубэ супярэчыла планам Гімлера. Ён перакрэсліў патрабаванні перадаць у рукі цывільных уладаў усю беларускую гаспадарку, згадваючы, што "спадар Кубэ толькі два месяцы праслужыў у войсках СС вартаўніком і не мае паняцця аб салдацкіх праблемах, аб дапамозе арміі і яе забеспячэнні".

"З боку спадара Кубэ я раз назаўсёды прашу вызваліць мяне ад падобнага нахабства".

Можна многа распавядаць пра дзеянні Кубэ, але лепш кожнаму, я мяркую, успомніць кінафільм "17 імгненняў вясны" і супаставіць факты грызні за ўладу па кінафільму і архіўных даных па Кубэ.

І каб паставіць кропку па бегламу агляду матэрыялаў, датычных Кубэ, я хачу толькі выказаць маё даўнішняе здзіўленне, што за забойства Кубэ (а гэта да апошняга часу ніхто не ведаў, ды й цяпер не звяртае ўвагі) атрымалі Героя Савецкага Саюза тры асобы – Мазанік, Осіпава і Траян. Траян – работнік медыцыны з Верхнядзвінска, жыве ў Маскве, але ніводнага інтэрв'ю не дала за ўвесь пасляваенны час. Гаворачы словамі верша Аркадзя Куляшова: "Цвёрда трымайся юнак на дапросе, тоячы словы й думкі свае."

*Праця будзе*

# У Мінску пабачыў свет фаліянт «Радзівілы. Альбом партрэтаў. XVIII – XIX стагоддзі»

**Фаліянт «Радзівілы. Альбом партрэтаў. XVIII—XIX стагоддзі» на беларускай, рускай і англійскай мовах выпушчаны сталічным выдавецтвам «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» ў серыі «Энцыклапедыя рарытэтаў».**

Як паведаміла 30 жніўня на прэс-канферэнцыі ў Мінску першы намеснік міністра інфармацыі Лілія Ананіч, 522-старонкавае факсімільнае выданне з гістарычнымі каментарамі надрукавана накладам 2 тыс. асобнікаў і хутка паступіць у розанічны продаж па цане прыкладна 200 тыс. рублёў. Паводле яе слоў, альбом будзе прадстаўлены 1 верасня ў беларускім павільёне на XXIII Маскоўскай міжнароднай кніжнай выставе-кірмашы і 5 верасня на святкаванні XVII Дня беларускага пісьменства ў Хойніках Гомельскай вобласці.

Кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт Беларускага дзяржуніверсітэта Вольга Бажэнава адзначыла, што ў выданні прадстаўлены генеалогія Радзівілаў, біяграфіі і партрэты (рэпрадукцыі гравюр і малюнкаў) 165 прадстаўнікоў магнацкага роду, у тым ліку 104 жанчын. Біяграфіі князёў уключаюць інфармацыю пра бацькоў, дзяцей, жонак, даты і месцы нараджэння, хрышчэння і смерці, а таксама пра творчасць той ці іншай персаналіі. Сярод прадстаўнікоў гэтага арыстакратычнага сямейства, якія прытрымліваліся антычных традыцый, было шмат паэтаў і філосафаў.

Паводле яе слоў, арыгінал альбома на латыні, які ствараўся некалькімі пакаленнямі знакамітага роду і «дазваляе азнаёміцца з гісторыяй у асобах», захоўваецца ў фондах Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі. Для вырабу фаліянта выкарыстоўвалася адмысловая акварэльная папера, падобная на паперу XVIII стагоддзя, – цёплая навобмацак, з вадзянымі знакамі.

Як раней паведамляў БелаПАН, з 50 фамільных альбомаў гравюр з партрэтамі князёў Радзівілаў, выдадзеных у сярэдзіне XVIII стагоддзя прыдворным гравёрам магнацкага роду Гіршам Лейбовічам на замову Міхала Казіміра Радзівіла (Рыбанькі), захавалася сем, якія знаходзяцца ў Беларусі, Літве, Польшчы, Расіі і Францыі. Прычым самы цікавы з альбомаў – у Мінску, у Нацыянальным гістарычным архіве. У сталіцы Беларусі захоўваюцца і малюнкі пяром партрэтаў Радзівілаў, выкананыя ў 1820-1830-я гады Фларыянам Даноўскім. Рэпрадукцыі ўсіх гэтых твораў і ўвайшлі ў факсімільнае выданне.

*Марат Гаравы, БелаПАН.*



Караль Станіслаў Радзівіл «Пане Каханку»

# Кансэкрацыя касцёла ў Бярозаўцы

■ ксёндз Віктар Місевіч

29 жніўня ў Бярозаўцы (Докшыцкі дэканат Віцебскай дыяцэзіі) адбылася кансэкрацыя касцёла. Абрад здзейсніў біскуп Віцебскі Уладзіслаў Блін. У прывітальнай прамове да сабраных парафіянаў ён сказаў, што шчаслівы стаяць на парозе новай святыні, дзе столькі ўкладзена працы і людской любові да Бога і Касцёла.

Касцёл у Бярозаўцы паўстаў з былога калгаснага будынку. Сёння яго знешні і ўнутраны стан нічым не прыпамінае яго колішняе прызначэнне. Біскуп Уладзіслаў прызнаўся вернікам, што хацеў бы, каб усе новыя касцёлы дыяцэзіі мелі ў сабе такое вытанчанае хараство і мастацтва.

Галоўны праектант бярозаўскага касцёла – пробашч а. Марэк Пасют OFMCap. Удзячныя парафіяне і сам біскуп Уладзіслаў шчыра дзякавалі айцу Марэку за працавітасць і клопат у пабудове святыні. Усім вядома, што айцы капуцыны разам з пробашчам уласнаручна выконвалі многія працы пры рэканструкцыі будынка.

На ўрачыстасць у Бярозаўку прыбылі шматлікія госці з Докшыц і ваколіц. Сярод духавенства прысутнічалі святары Докшыцкага дэканату і браты капуцыны з беларускай віцэ-правінцыі ордэну на чале з а. віцэ-правінцыялам Андрэем Жылевічам. На св. Імшы спяваў хор Докшыцкай парафіі і хор супольнасці грэка-католікаў з Віцебска на чале з а. Дзмітрыем Грышанам.

У Бярозаўскім касцёле праз задумку а. Марэка выдатна сплятаюцца дзве хрысціянскія традыцыі: заходняя і ўсходняя. У галоўным алтары віднеюцца выявы св. Францішка з Асізі і св. Серафіма Сароўскага, паміж якімі – абраз Маці Божай Вострабрамскай. Як вядома, абраз Маці Міласэрнасці ўшаноўваецца як католікамі, так і праваслаўнымі.

На свяце шмат гаварылася пра еднасць і адзінства. Яно бачна ў жыцці простых людзей у Бярозаўцы. Гэты жывы экуменізм не патрабуе пісьмовых дэкларацый і гучных канферэнцый. Застаецца спадзявацца і маліцца аб паяднанні паміж Каталіцкім Касцёлам і Праваслаўнай Царквой на ўзроўні іерархіі.

Касцёл у Бярозаўцы невялікі па памерах. Але ён вялікі і маестатычны па прычыне свайго прызначэння. У ім спраўляюцца святыя сакрамэнты. У ім кансэкраваныя святым алеем сцены і алтар. У ім - жывы Езус у Эўхарыстыі.

Біскуп Уладзіслаў, прамаўляючы гамілію, заклікаў вернікаў пашыраць хрысціянскую любоў і клапаціцца аб сваёй маленькай радзіме, каб беларуская вёска адрадзілася і не вымерла. Ён выказаў шчырую надзею, што бярозаўскі касцёл стане месцам аб'яднання і згуртавання парафіянаў і аднавяскоўцаў.

*Фота: Васіль Кучаравы*


Біскуп Уладзіслаў Блін



# Віншаванкі

## Надзею Анатольеўну Шапавал

**Віншуем з днём нараджэнння!**

Поздравить рады с Днём рожденья,
Здоровья, счастья пожелать,
С улыбкой, добрым настроеньем
Свой путь по жизни продолжать.
Пусть каждый твой обычный день
В прекрасный праздник превратится,
И никогда печали тень
В твоих глазах не отразится.
Ещё желаем в жизни лишь успеха,
Поменьше слёз, побольше смеха,
Дорогу жизни подлинней
И много радости на ней!



*Тваe родныя.*

## Часлава Восіпавіча Вайтэцкага

**Віншуем з нагоды 55-гадовага юбілею з Дня нараджэння!**

Всегда и грустно, и приятно
Свой день рожденья отмечать:
Уходят годы безвозвратно,
Их только успевай считать.
Но время, будто бы теченье,
Ничто не в силах удержать.
Тебе сегодня в день рожденья
Хотим мы счастья пожелать,
Удачи, радости, успеха,
Здоровым быть, беды не знать,
Преграды в жизни и помехи
Легко и быстро устранять,
Побольше смеха, меньше грусти -
И никогда не унывать.



*Ад калектыву УП ЖКГ Глыбоцкага раёна*

# Рэкалекцыі ў Браславе



**З 23 па 25 жніўня ў Браславе праходзілі рэкалекцыі для святароў Віцебскай дыяцэзіі. Рэкалекцыі – гэта духоўныя практыкаванні. Яны патрэбныя для аднаўлення рэлігійнага жыцця. Звычайна іх праводзіць святар з іншай дыяцэзіі, ці нават краіны. Падчас малітоўных сустрэч закранаюцца важныя пытанні і праблемы. Святары разважаюць над Божым Словам і прыступаюць да сакрамэнту споведзі. Толькі Езус – Найвышэйшы Пастыр з'яўляецца дасканалым. Ягоныя ж слугі патрабуюць навяртання, як і кожны чалавек.**

**Разам са святарамі на рэкалекцыях моліцца ардынарый Віцебскай дыяцэзіі біскуп Уладзіслаў Блін. Яго прысутнасць вельмі важная і патрэбная: кожны святар можа паразмаўляць з наступнікам апосталаў ці спытацца бацькоўскай парады.**

**Рэкалекцыі ў Браславе праводзіць кс.Кшыштаф Езяроўскі з Чэнстахоўскай архідыяцэзіі (Польшча). Падчас разважанняў кс. Кшыштаф запрапанаваў сабраным святарам паразважаць над цнотай веры, якая так неабходная кожнаму святару. Ён прывёў мноства жыццёвых прыкладаў з уласнага вопыту і заахвоціў беларускіх святароў да вернасці Хрысту.**

*Кс. Віктар Місевіч.*

# Чарневічы запрашаюць!

**11 верасня у памяць дня казні Святога Іаана Хрысціцеля у 8 гадзін раніцы арганізуецца хросны ход ад Чарневіцкай Свята-Параскева -Пятніцкай царквы да крыніцы Святога Іаана Чарневіцкага прыхода. У 9 гадзін на крыніцы Святога Іаана адбудзецца малебен з чынам асвячэння вады. Прыняць удзел у свяце могуць усе жадаючыя.**

*Прыхаджане Чарневіцкага прыхода.*


Крыніца Святога Іаана

Фота Ул. Скрабатуна

**А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Ашчэр драпежніка

**Работа дзяржаўнага інспектара патрабуе не толькі ведання дзейснага прыродаахоўнага заканадаўства, але і падтрымання добрай фізічнай формы, таму што часам інспектарам пры затрыманні браканьераў даводзіцца дэманстраваць моцную фізічную сілу.**

Штотыднёвыя зводкі дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету рэгулярна фіксуюць факты аказання браканьерамі непадпарадкавання супрацоўнікам дзяржаўнай інспекцыі.

Браканьеры, каб сысці ад адказнасці, ідуць на самыя крайнія меры, аж да пазбаўлення жыцця інспектараў.

Так, супрацоўнікі Столінскай міжраённай інспекцыі пры правядзенні прыродаахоўнага рэйду на рацэ Прыпяць каля 2 гадзін ночы затрымоўвалі грамадзяніна, які здзяйсняў незаконную здабычу рыбы сеткамі. Каб сысці ад інспектараў, браканьер, карыстаючыся больш магутным маторам і лодкай, накіраваў свой катэр на лодку дзяржінспектараў, каб патапіць яе, і толькі лічаныя сантыметры аддзялілі дзве лодкі ад сутыкнення. Як кажуць, таран браканьеру не ўдаўся, а вось перад законам ён адказаў, штраф у 700 тыс. рублёў астудзіў запал парушальніка, але ж інспектары на законных падставах маглі ўжыць зброю.

У канцы траўня месяца супрацоўнікамі Пінскай міжрайінспекцыі на вадасховішчы «Дастоева» Іванаўскага раёна была затрымана група браканьераў з 4 чалавек, якія з дапамогай «валакушы» незаконна здабывалі рыбу і ракаў. Пры затрыманні два парушальнікі аказалі злоснае непадпарадкаванне супрацоўнікам інспекцыі і схаваліся, двое былі затрыманыя. Падчас правядзення аператыўных мерапрыемстваў, парушальнікі, якія схаваліся, былі затрыманыя, а фінал іх незаконных дзеянняў, крымінальная справа, узбуджаная Іванаўскім РАУС па ч.4 арт. 281 КК РБ і магчымае пазбаўленне волі тэрмінам да 6 гадоў.

На жаль, у працы супрацоўнікаў Глыбоцкай міжраённай інспекцыі факты непадпарадкавання пры затрыманні браканьераў гэтак жа прысутнічаюць, за 8 месяцаў 5 фактаў аказання непадпарадкавання.

Так, 14 траўня 2010 года каля 2 гадзін ночы супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі ажыццяўлялі мерапрыемствы па затрыманні браканьераў на возеры Вялікае Язна Мёрскага раёна. Два жыхары в. Язна незаконна ажыццяўлялі лоўлю рыбы сеткамі ў перыяд вясновага нерасту і пры затрыманні аказалі сур'ёзны супраціў, але ўсё адно былі затрыманы, а вынік – штраф за непадпарадкаванне ў памеры 700 тыс. кожнаму і крымінальная справа па ч.4 арт. 281 КК РБ «Незаконная здабыча рыбы і водных жывёл», пакаранне за дадзенае злачынства прадугледжвае пазбаўленне волі тэрмінам да 6 гадоў.

28 ліпеня 2010 года жыхар в. Н.Пагост Мёрскага раёна грамадзянін Т., які працаваў у адным з прыродаахоўных ведамстваў раёна, сам ажыццяўляў незаконную здабычу рыбы сеткамі, а пры яго затрыманні супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі аказаў ім непадпарадкаванне. Ацэнку дзеянням парушальніка дасць раённы суд, а працу «абаронцы» прыроды ацэніць і яго кіраўніцтва. Спадзяемся, што кіраўнікі прыродаахоўнага ведамства зоймуць прынцыповую пазіцыю і паставяць работніка, які зарваўся, на месца.

7 ліпеня 2010 года жыхар г. Глыбокае грамадзянін Васілёнак Яўген Аляксандравіч быўшы затрыманым супрацоўнікам інспекцыі за незаконны збор ягад чарніцы пры дапамозе «грабянца», каб сысці ад адказнасці кінуўся з нажом на інспектара, вынік - 5 сутак адміністрацыйнага арышту і штраф больш 1, 5 млн. рублёў.

Гэта толькі частка прыкладаў аказання непадпарадкавання браканьерамі, але насцярожвае тое, што ўсё часцей грамадзяне наўмысна парушаючы закон, здзяйсняючы браканьерства, яшчэ больш пагаршаюць сваё становішча непадпарадкаваннем законным патрабаванням работнікаў інспекцыі. Хацелася б сказаць такім грамадзянам, што запалохаць інспектараў не атрымаецца. У шматлікіх выпадках непадпарадкавання грамадзяне аказваюць дапамогу інспектарам у спыненні фактаў парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства.

І няхай трошкі, але ўсё ж, берагі нашых вадаёмаў пачысцелі, сетак стала менш, а рыбы і звяроў больш.

Глыбоцкая міжрайінспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету выказвае падзяку грамадзянам за аказваемую дапамогу ў захаванні нашых прыродных багаццяў.

Пра ўсе парушэнні Вы можаце паведаміць на тэлефон гарачай лініі Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 8-02156-2-86-70 ці маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 351-28-12

**І.Э. Квяцінскі,**
*галоўны інжынер Глыбоцкага РЭС*

# Электрабяспека ці...

**Электрычная энергія з'яўляецца самым універсальным і зручным для карыстання відам энергіі як на вытворчасці, так і ў побыце. Дзякуючы электрычнай энергіі мы выкарыстоўваем у паўсядзённым жыцці тэлевізары, магнітафоны, пыласосы, прасы, пральныя машыны і іншыя электрабытавыя прыборы.**

Пры звычайнай рабоце і эксплуатацыі гэтыя прыборы і абсталяванне бяспечныя, але электрычная энергія ўтойвае ў сабе смяротную небяспеку для жыцця чалавека, калі парушаюцца правілы яе ўжывання. Электрычная энергія можа прынесці і непапраўную шкоду здароўю, калі пры яе выкарыстанні не выконваць меры асабістай засцярогі і не выконваць элементарныя правілы бяспекі.

Адной з асаблівасцяў электрычнага току з'яўляецца тое, што ён нябачны, не мае ні паху, ні колеру, таму выявіць яго без адмысловых прыбораў чалавек не можа. Электрычны ток паражае раптам, калі чалавек апынуўся «ўключаным» у ланцуг праходжання току. Пры гэтым ток пашкоджвае тканіны на ўсім шляху яго праходжання праз цела чалавека.

Параза электрычным токам можа наступіць і пры набліжэнні на недапушчальна блізкую, небяспечную адлегласць да змешчаных пад напругай токаводным часткам, а таксама пры трапленні чалавека пад так званую крокавую напругу, якая ўзнікае ў зоне абрыву і падзення на зямлю праводоў дзейсных ліній электраперадач.

Штогод адбываюцца няшчасныя выпадкі пры спробе пранікнуць унутр энергетычных аб'ектаў (трансфарматарныя падстанцыі, размеркавальныя прылады).

У пазбяганне няшчасных выпадкаў ад дзеяння электрычнага току, неабходна памятаць і выконваць наступныя правілы электрабяспекі:

**1.** Смяротна небяспечна датыкацца да любых правіслых ці абарваных праводоў, падыходзіць бліжэй чым на 8-10 м да ляжачых на зямлі абарваным праводам паветраных ліній.

**2.** Для прадухілення выпадкаў дзіцячага электратраўматызму дзецям неабходна забараняць:

- залазіць на дахі дамоў, будынкаў і дрэвы ў тых месцах, дзе паблізу праходзяць электрычныя правады;
- на апоры і мачты паветраных ліній электраперадачы, накідваць дрот і іншыя прадметы на правады;
- запускаць каля ліній паветраных змеяў;
- разводзіць вогнішчы;
- разбіваць ізалятары і лямпы.

**3.** Забараняецца праводзіць якія-небудзь гаспадарчыя працы, узводзіць пабудовы, разгружаць ці складаваць матэрыялы пад паветранымі лініямі электраперадач ці зблізку іх.

**4.** Вялікую небяспеку электратраўматызму ўяўляе сабою няправільнае выкарыстанне па-за памяшканнямі пераноснага электраінструмента, а таксама помпаў для палівання прысядзібных участкаў і г.д.

Глыбоцкі раён электрычных сетак папярэджвае!

Пры ўзнікненні аварыйнай сітуацыі: абрыў провада, пашкоджанне апоры лініі электраперадач, падзенне дрэў на лінію электраперадач і іншых пашкоджаннях, ні ў якім разе не набліжайцеся да месца пашкоджання. Неадкладна паведаміце пра здарэнне дыспетчару Глыбоцкага раёна электрычных сетак па тэлефоне 2-62-41..

# Прадстаўнікі бізнес-супольнасці разлічваюць на адмену абмежаванняў для ІП па найме работнікаў

**Прадстаўнікі беларускай бізнес-супольнасці разлічваюць на адмену абмежаванняў па найме работнікаў для індывідуальных прадпрымальнікаў (ІП).**

«Думаю, гэтае пытанне будзе станоўча вырашана найбліжэйшым часам», — заявіў БелаПАН старшыня РГА «Перспектыва» Анатоль Шумчанка. Страты дзяржавы як у эканамічным, так і палітычным плане ў сувязі з наяўнасцю забароны па наёмных асобах відавочныя, лічыцьён. «Уладам нічога не застаецца, як прызнаць памылковасць сваіх дзеянняў, пайсці насустрач прадпрымальніцкай супольнасці і дазволіць ІП наймаць работнікаў не з ліку блізкіх сваякоў», – сказаў Шумчанка.

Пра падрыхтоўку адмены абмежавання па найме работнікаў для ІП паведаміў 27 жніўня намеснік міністра эканомікі Андрэй Тур, выступаючы на канферэнцыі Бізнес-саюза прадпрымальнікаў і наймальнікаў імя Куняўскага. Паводле яго слоў, гэта прадугледжана праектам дырэктывы Прэзідэнта № 4 аб лібералізацыі эканамічнай дзейнасці, які распрацоўваецца ва ўрадзе.

Нагадаем, згодна з дзейным заканадаўствам ІП могуць наймаць не больш як трох асоб, прычым толькі з ліку блізкіх сваякоў. Такое абмежаванне было ўведзена ўказам Прэзідэнта № 760 ад 29 снежня 2006 года.

Увесь гэты час прадстаўнікі бізнес-супольнасці неаднаразова прасілі ўрад і Адміністрацыю прэзідэнта адмяніць абмежаванне. Аднак чыноўнікі заяўлялі, што пытанне аб наёмных асобах для ІП вырашана канчаткова і ніякіх змен не плануецца.

Шумчанка выказаў надзею на тое, што публічную заяву Тура аб планах адмяніць абмежаванне можна разглядаць як цвёрды намер уладаў вырашыць гэтае пытанне на карысць прадпрымальнікаў. «Цяпер, калі ўлада дасць задні ход, гэта адмоўна адаб'ецца на яе рэйтынгу і іміджы. Улада пацвердзіць свой статус ненадзейнага партнёра ў вачах бізнесу, а гэта ўжо адаб'ецца негатыўна на інвестыцыйным клімаце», – заўважыў лідэр РГА «Перспектыва».

У сваю чаргу сустаршыня Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва Віктар Маргелаў лічыць, што пакуль рана меркаваць аб тым, ці будуць рэалізаваны на практыцы словы намесніка міністра. «Змест дырэктывы пастаянна мяняецца, і незразумела, што будзе на выхадзе», – растлумачыў ён.

Паводле разлікаў прадпрымальнікаў, зняцце абмежаванняў па найме ІП дазволіць на 5% павялічыць даходнасць бюджэту і на працягу года забяспечыць працай у гандлі і сферы паслуг прыкладна 65 тысяч чалавек.

*Андрэй Кажамякін, БелаПАН.*

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

6 – 12 верасня 2010 г.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 6 верасня



**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.55** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.50** Деловая жизнь.
**08.30** «Заступница земли белорусской».
**09.05 «Без ошейника»**
**10.40** Женское ток-шоу «Жизнь как жизнь». «Мой муж - неисправимый романтик».
**11.35** «OFF STAGE LIFE» с Натальей Тамело.
**12.10** Мелодрама **«Варенька»**
**14.05** «Моя правда» Фильм «Тина Канделаки».
**15.15, 19.15** Новости региона.
**15.30** «Мельница моды-2010».
**15.55 «Женить Казанову»**
**16.45 «Спальный район»**
**17.50 «Разлучница»** 1-яс.
**18.50, 00.45** «Зона Х».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Арена».
**19.55** Премьера. **«Варенька.Испытание любви»** 1-я серия.
**21.00** Панорама.
**21.55** «Чартер на Париж».
**22.10** Боевик **«Тайна «Ордена»** (США).
**00.00** Фантастический сериал **«Герои-3»**
**00.55** День спорта.



**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10 «Моя жена меня приворожила»**.
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Малахов +».
**12.20** «Детективы».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Контрольная закупка».
**13.45** «Модный приговор».
**14.50** «Понять. Простить».
**15.25** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Обручальное кольцо»**.
**17.05 «Слово женщине»**.
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20 «Счастливы вместе»**.
**19.00** Жди меня.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Выбор».
**22.10 «Остаться в живых»**.14-я серия.
**23.05** Наши новости.
**23.20** Новости спорта.
**23.25** «Инкассаторы. Выстрел в спину».
**00.25 «Евлампия Романова. Следствие ведет дилетант»**.



**01.10** Наши новости.
**01.25-01.35** Новости спорта.



**06.35** Женская лига.
**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Телебарометр.
**08.05**»Универ»
**08.30** Час суда. Дела семейные.
**09.35 «Любовь как любовь»**
**10.40** Боевик **«Инферно»**
**12.15** Школа ремонта.
**13.15 «Полюби меня снова»**
**14.15** Мультсериал **«Доктор Дог»**
**14.25** Внеклассный час.
**14.40** Телебарометр.
**14.55** Простые упражнения
**15.35** Детективный сериал **«Налетчики»**
**16.25** Час суда. Дела семейные.
**17.30** Женская лига.
**18.00 «Любовь как любовь»**
**19.00** Комедия **«Дайте жалобную книгу»**
**20.45** Калыханка.
**21.00** Телебарометр.
**21.05** Белорусское времечко.
**22.05 «СМЕРШ»**1-ясерия.
**23.05**»Универ»
**23.35** Детективный сериал **«Налетчики»**

СТВ REN TV

**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро».
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Личный интерес»
**10.30** «24 часа».
**10.40**«Богатаяилюбимая».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35 «Мачеха»**. Сериал.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Большой город».
**14.30** Концерт Михаила Задорнова.
**15.35** «Звездный ринг».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».



**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Мачеха»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.25** «Кинопонедельник»: **«МЫ ИЗ БУДУЩЕГО»**.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Столичный футбол».
**23.25** «Кино»: **«ШАГ ВПЕРЕД»**.

БЕЛСАТ tv BELSAT

**07:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**07:30** Вагон
**07:40** Кулінарныя падарожжы Р. Макловіча: «Пірацкі смак»
**08:05** Побач з намі
**08:20 «Загадкі Мэрдака»,** ч. 2, 9 серыя
**09:05** Басанож па свеце «Бушмены»
**09:30** «Бронзавы жаўнер Алёша»дак. фільм, рэж. Мэаліс Муху 2008 г., Эстонія
**10:35 «Таямніца крэпасці шыфраў»** 10 серыя
**11:20 «Пасля канца свету»**
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 «Тры шалёныя нулі»**. 1 серыя.
**17:30 «Таямніца крэпасці шыфраў»**
**18:20** Госць «Белсату»: Галіна Васько
**18:35** «Транзіт», дак. фільм, рэж. Джоўан Рычардсан , 2008 г., Румынія
**19:10** Прэс-экспрэс
**19:30 «Маўрыцы і Гаўранэк»,** мультсерыял
**19:40** Еўропа сёння
**20:10** «Пасол Спасоўскі», дак. фільм
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Рэмарка
**21:45** Фільматэка майстроў: **«Пасля канца свету»**
**23:30** Аб'ектыў

